# ЛАБІРЫНТ



*№19, красавік 2012*

*Студэнцкая гістарычная суполка "Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага"*

## З гісторыі аднаго падручніка.



Дапаможнікі і падручнікі па гісторыі Беларусі. Напісанне абагульняючых працаў па гісторыі Беларусі заўсёды звязвалася з шэрагам цяжкасцяў. У складзе Расейскай імперыі першую нацыянальную версію беларускай гісторыі пад назвай "Кароткая гісторыя Беларусі" ўдалося выдаць у Вільні толькі ў 1910 г. Яе аўтарам быў Вацлаў Ластоўскі. З устанаўленнем савецкай улады выйшаў вельмі сціплы па памерах "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" Усевалада Ігнатоўскага (Менск, 1922). Аўтар выдання працягваў лінію В.Ластоўскага, выкладаючы гістарычныя падзеі з нацыянальных пазіцый. Аднак у часы сталінскага панавання гэтая лінія была перарвана. Грунтоўная "Гісторыя Беларусі" Мітрафана Доўнар-Запольскага, напісаная ў 1926 г., пабачыла свет толькі ў незалежнай Беларусі (Менск, 1994; 2003). Васіль Шчарбакоў выдаў "Нарыс гісторыі Беларусі" (Менск, 1934) ужо ў поўнай адпаведнасці са сталінскай дактрынай грамадскага развіцця. Праўда, гэта не ўратавала яго, як і У.Ігнатоўскага, ад рэпрэсій. Іх кнігі былі забароненыя. Дапаможнікаў па айчыннай гісторыі ўвогуле не засталося.

Пасля другой сусветнай вайны агульная праца па гісторыі Беларусі рыхтавалася пад жорсткім кантролем камуністычнага кіраўніцтва Менску і Масквы. Пад рэдакцыяй У.Н.Перцава, К.І.Шабуні, Л.С.Абэцадарскага калектывам аўтараў была створана "История Белорусской ССР" у двух тамах (Менск, 1954). Практычна без істотных зменаў яна была перавыдадзена ў 1961 г. Гэтыя акадэмічныя выданні выкарыстоўваліся ў якасці дапаможнікаў на гістарычных факультэтах педінстытутаў і БДУ. Спецыяльных падручнікаў ці дапаможнікаў для ВНУ не існавала. І будучыя выкладчыкі гісторыі штудзіравалі курс беларускай гісторыі па невялікаму дапаможніку пад рэдакцыяй прафесара Л.Абэцадарскага, які прызначаўся для сярэдняй школы. Студэнты іншых спецыялізацый замест гісторыі Беларусі вывучалі гісторыю КПСС ды эканамічную гісторыю СССР і замежных краінаў. З нешматлікіх калектыўных выданняў савецкай эпохі лепшым засталася пяцітомная "Гісторыя Беларускай ССР" (Менск, 1972 – 1975). Яна вылучалася грунтоўнасцю выкладзенага матэрыялу.

# Гартны Цішка «Насустрач сонцу»

*11 красавіка спаўняецца 75 гадоў з дня гібелі старшыні першага ўрада БССР Змітра Жылуновіча.*



«Так, яму не хапала адукацыі, шліфоўкі, так, ён мог зазнавацца, мець завышаную самаацэнку, ён не быў спрытным палітыкам… Яго як пісьменніка нельга паставіць у адзін шэраг з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Максімам Гарэцкім, Алесем Гаруном, але ніхто з сур'ёзных літаратуразнаўцаў і не робіць гэтага.
І ніхто з сур'ёзных літаратуразнаўцаў не будзе пісаць, што Цішка Гартны „крэмзаў" вершы.
Мы памятаем, што ён быў у шэрагу першых.
Мы ведаем, што ў сілу сваіх здольнасцяў ён паслужыў беларушчыне. Ён быў пралетар? Але ён заслужаны перад Беларуссю пралетар.
Ён быў камуністам? Але ніхто не будзе аспрэчваць, што перш ён быў беларусам», — піша пра Жылуновіча гісторык Анатоль Сідарэвіч.
Абставіны гібелі пісьменніка і паэта, нашаніўца, БСГоўца, а пасля нацыянал-камуніста, старшыні першага ўрада БССР, рэдактара першай беларускай савецкай газеты «Дзянніца» і часопіса «Полымя», арганізатара беларускага кнігавыдавецтва і акадэміка Змітра Жылуновіча цьмяныя.
Адлучаны ад палітычнай і навуковай дзейнасці, выключаны з партыі, цкаваны,
Жылуновіч быў арыштаваны ў 1936-м па сфабрыкаванай справе «як актыўны ўдзельнік контррэвалюцыйнай фашысцкай арганізацыі, выкрытай у Мінску».
Як расказаў радыё «Свабода» гісторык Ігар Кузняцоў,
Гартнага спачатку трымалі ў сумнавядомым ізалятары КДБ «амерыканка», выбіваючы паказанні.
Сведкам таго апошняга трагічнага перыяду жыцця Жылуновіча быў Масей Сяднёў. Яго ўспаміны цытаваў у сваёй працы «Айцы» БССР і іхны лёс» Аўген Калубовіч: «23.10.1936 г. аўтар (тады студэнт 4-га курса Менскага Педагагічнага інстытута) быў арыштаваны НКВД. На першым допыце яму было прачытанае абвінавачванне:
«Вы обвиняетесь в принадлежности к контрреволюционной нацдемовской организации, целью которой было отторжение Белоруссии от СССР, чтобы сделать ее буржуазно-демократической республикой типа Латвии, Литвы и Эстонии»…
«Следчы далей з іроніяй зазначыў, што „идейный вождь" гэтай арганізацыі — „ваш знаменитый писатель" Цішка Гартны…
Аднойчы, як звычайна, мяне ад следчага вялі да камеры.
У вузкім калідоры нечакана я сустрэўся з Цішкам Гартным, якога вялі на допыт. Ад здзіўлення я спыніўся, чаго, зразумела, рабіць было нельга… Я крыкнуў:
— Добры дзень, дзядзька Гартны!
— Молчать! — крыкнуў праваднічы. — Кто он вам? — І паставіў мяне тварам да сцяны. Я стаяў да тых пор, пакуль ня змоўклі крокі Цішкі Гартнага.
Праз 10 хвілін пасля гэтага мяне вельмі ганялі на паўторным допыце:
— Откуда знаете Гартного? — пытаўся следчы…
— Я ведаю яго як беларускага пісьменьніка — і не больш гэтага.
— Гм-м „белорусского"… А лично знакомы?
— Не, — адказаў я…
У камэры я доўга думаў над тым, як сталася, што арыштавалі Цішку Гартнага? У маіх вачох Ц.Гартны быў чалавекам, якога нельга было, здаецца, арыштаваць наагул…



*Зміцер Жылуновіч з сям'ёй. 1929 год*

Хутка я апынуўся ў камеры, дзе былі Цішка Гартны і Сымон Баранавых. Я вельмі абрадаваўся гэтаму… меў з кім гутарыць.

Цішка Гартны гаварыў, што… ідзе знішчэньне ўсяго беларускага… знішчэньне духовага жыцьця народу, больш таго — ідзе яго фізычнае знішчэнне… Робіцца ўсё… каб не даць нам жыць, як народу. Дзеля гэтага й „створана“ сягоння органамі НКВД нацдэмаўская арганізацыя. Сяброў гэтай арганізацыі будуць цяжка абвінавачваць у дзяржаўнай зрадзе.

Нікому з нас не будзе літасці…

Кожны дзень прыносіў нечуваныя навіны… Арыштаваныя народны камісар земляробства Бэнэк, народны камісар асьветы Чарнушэвіч, галоўнакамандуючы Беларускай вайсковай акругай Убарэвіч… паэты Чарот, Александровіч, Хадыка, Дудар, Кляшторны, Маракоў, Звонак… пісьменнікі Галавач, Зарэцкі, Скрыган, Баранавых, Знаёмы, Мікуліч, Шашалевіч і г.д. Турма набівалася бітком.

На допыты цягаюць дзень і ноч, і б'юць».

«…Ц.Гартны звар'яцеў. Вяртаючыся із допытаў, ён хаваўся пад лаўку й ціха, спалохана шаптаў: „Божа мой!.. Я хацеў забіць Сталіна?“

„Праходзіць цэлы год… Я атрымліваю, нарэшце, „обвинительное заключение“… (Зь яго) вынікае, што кіраўнікамі арганізацыі з'яўляюцца „ворагі народа“ — Цішка Гартны, Зарэцкі, Чарот і Дудар.

У гэты час Гартнага ў жывых ужо ня было.

Ён памёр (11.4.1937 г.) у Магілеўскім Доме вар'ятаў“, куды яго перавезьлі з турмы менскага НКВД».

У той лякарні, як сведчыць гісторык Ігар Кузьняцоў, Гартны, прывезены з мінскай «амерыканкі», прабыў нядоўга — чатыры дні.

Афіцыйная прычына яго смерці — «гангрэна лёгкіх».

Пра іншае, паводле Кузняцова, сведчаць следчыя матэрыялы: «У следчых матэрыялах напісана: «Ён лёг на падлогу, узняў жалезны ложак і ножку ложка паставіў сабе ў рот, і такім чым здзейсніў самагубства». Многія рабілі сабе смерць, каб не трапіць у пашчу «чырвонага Молаха» — Ігнатоўскі, Чарвякоў, Юзаф Адамовіч. Але ў выпадку Жылуновіча Ігар Кузняцоў не верыць у версію добраахвотнага сыходу з жыцця:

«Па ўсіх заключэннях ён не быў здольны на якое-небудзь фізічнае самагубства. Сто працэнтаў гэта было зроблена супрацоўнікамі НКВД. Гэта быў знакавы чалавек у беларускай гісторыі, і пакідаць яго жывым і пры розуме — гэта было не ў стылі НКВД.




*Сімвалічная магіла Змітра Жылуновіча ў Магілёве.*

Гэта ж потым стала традыцыяй у савецкі час, калі ў турму садзіць было нібыта неэтычна, — ізаляваць у псыхіятрычную ўстанову. Як дысыдэнты многія адседзелі», — падсумоўвае Кузьняцоў.

Іншыя сведчанні пра апошнія дні Змітра Жылуновіча даў сайту «Наш Магілёў» Анатоль Сідарэвіч: «Вызваліўшыся са зняволення, паэт

Мікола Хведаровіч зацікавіўся апошнімі днямі свайго земляка і знайшоў доктарку, якая была сведкаю смерці Цішкі Гартнага. Яе адрас Мікола Хведаровіч даў свайму малодшаму калегу Сяргею Панізніку. Далей я буду цытаваць на мове арыгіналу ліст доктара Агнесы Героднік да Сяргея Сямёнавіча. Вось што яна пісала 26 лютага 1982 года:
Цішка Гартны „поступил в Могилевскую психоневрологическую больницу из места заключения с диагнозом „реактивный психоз“. Контакт с ним был сильно затруднен. (…)
Умер он там же вскоре после поступления. Я сама проводила вскрытие и могу сообщить, что причиной его смерти было тяжелое хроническое заболевание — кистозное перерождение обеих почек. Вместо почечной лоханки были пузырьки, наполненные жидкостью, как виноградные кисти“…
Вы ж ведаеце, як ставяцца да хворых арыштантаў і вязняў наступнікі энкавэдыстаў у Рэспубліцы Беларусь. А што казаць пра той час? Усё дыктавалася палітычнай мэтазгоднасцю. Мэтазгодна было фізічна знішчыць Зміцера Жылуновіча, перад гэтым дамогшыся, каб ён сам узвёў на сябе паклёп», — кажа гісторык.
Дакладнае месца пахавання Змітра Жылуновіча невядомае. Магілёўскія актывісты паставілі сімвалічны крыж непадалёк ад лякарні, у якой загінуў патрыёт, які паверыў бальшавікам.



*Гісторыя, відаць, толькі тады і падабаецца, калі ўяўляе сабою трагедыю, якая надакучае, калі не ажыўляе яе запал, ліхадзействы і вялікія нягоды.*

**Вальтэр**

# ARCHE

## *Гісторыя беларускай штодзённасці. Новы нумар "ARCHE"*




У дадзеным нумары сабраныя артыкулы, якія ахопліваюць шырокі спектр штодзённага жыцця насельніцтва Беларусі ў розныя эпохі.
Натуральна, у межах аднаго выдання гісторыю беларускай штодзённасці ўсебакова прадставіць проста немагчыма, таму ў далейшым беларускім гісторыкам яшчэ ёсць шмат над чым працаваць. Пакуль жа я выказваю шчырую падзяку ўсім тым аўтарам, якія адгукнуліся на прапанову прыняць удзел у падрыхтоўцы гэтага выдання, зрабіўшы тым самым свой унёсак у даследаванне гісторыі штодзённага жыцця нашых далёкіх і нядаўніх продкаў.

## *Станіслаў Ліс-Блонскі. Балахоўцы*



***Дарыюш Купіш. Полацак 1579***

Дарыюш Купіш

Полацак 1579



***Эдмундас Гімжаўскас. Беларускі фактар пры фармаванні літоўскай дзяржавы.***




***Уладзімір Ляхоўскі «Ад гоманаўцаў да гайсакоў***




***Міраслаў Янковяк «Беларускія гаворкі ў Краслаўскім раёне Латвіі»***






## Памяць пра Вялікую Айчынную вайну з лакальнай перспектывы (1944-1965)

Прэзэнтуем вашай увазе прэс-рэліз міжнароднага навуковага даследчага праекту, які будзе ажыццяўляцца пры ўдзеле Інстытута “Палітычная сфера”.



Другая сусветная вайна стала самай значнай падзеяй у гісторыі XX стагоддзя – эпахальнай, трагічнай, крывавай, яна радыкальным чынам змяніла ўяўленні пра чалавека і канфігурацыю сусветных сіл. У Савецкім Саюзе яна стала называцца Вялікай Айчыннай вайной, і дагэтуль у большасці незалежных рэспублік, якія ўтварыліся пасля распаду камуністычнай звышдзяржавы, гэта падзея ўспамінаецца менавіта так, як было заведзена ў савецкі час.

Здавалася б, так было і так будзе заўжды.

Але гістарычная памяць грамадства заўсёды фармуецца, змяняецца і вызначаецца плынню часу, дзяржаўнай палітыкай, успамінамі людзей.

У першыя паваенныя гады вайна не была далёкай падзеяй, пра які найлепшае ўяўленне можна атрымаць па мастацкіх фільмах. Горыч ад страт, цяжкі паваенны побыт, цяжкасці ўладкавання франтавікоў, тым больш інвалідаў вайны… Трэба было ствараць памяць пра вайну, якая б аб’ядноўвала грамадства, дапамагала вырашаць канфлікты і спрыяла росту міжнароднага прэстыжу савецкай дзяржавы. А ў цяжкіх і крывавых перыпетыях ваенных гадоў было мноства тэм, якія было вельмі цяжка ўключыць у афіцыйны камуністычны канон: знішчэнне на акупаваных землях габрэйскага насельніцтва, сам досвед акупацыі часткі савецкай тэрыторыі, лёс ваеннапалонных, калабарацыя, нацыяналістычны супраціў.

Таму памяць пра вайну была цяжкай і праблематычнай – як для простых людзей, якія прайшлі праз нягоды і страты блізкіх, так і для ўлад. У брэжнеўскі час сфармаваўся манументальны і гераічны вобраз вайны – але для гэтага трэба было прайсці доўгі і цярністы шлях, пераадолець цяжкасці ў трактоўцы спрэчных момантаў і выпрацаваць агульнапрынятую і зручную мову разумення мінулага.

Менавіта пытанні фармавання і ўсталяванні памяці пра Вялікую Айчынную вайну ў першыя паваенныя дзесяцігоддзі ляглі ў аснову даследавання, у якое залучаны даследнікі з трох краін – Аляксей Ластоўскі (Беларусь), Ірына Склокіна (Украіна), Раман Хандожка (Расія). Даследаванне ажыццяўляецца ў рамках праекта “Гістарычная майстэрня Еўропа” пры падтрымцы фонда “Памяць, адказнасць, будучыня”

Тры навукоўцы і тры гарады – Гародня, Харкаў і Растоў-на-Доне. Тры буйных абласных цэнтры, са сваёй багатай гісторыяй і культурай, адметнымі асаблівасцямі і… уласным досведам ваеннага часу. Зрэшты, усе тры гарады аб’ядноўвае і тое, што падчас вайны

яны былі акупаваны нямецкімі войскамі, хоць перыяд акупацыі доўжыўся розны час.
Мы часта думаем пра Савецкі Саюз як дзяржаву, дзе ўсё было маналітным і аднолькавым – ад адзежы і “Жыгулёўскага” піва да рускай мовы і камуністычнай ідэалогіі. Але калі прыгледзецца ўважліва, то за ўяўнай аднастайнасцю хаваецца мноства разнастайных варыянтаў увасаблення адзінай палітыкі, абумоўленых лакальнай спецыфікай, інтарэсамі мясцовай улады, становішчам рэгіёнаў і рэспублік у агульнасавецкай сістэме. Так і памяць пра вайну, асноўныя рамкі якой вызначаліся ў Маскве, на месцах мела свае адрозненні. Самы яркі прыклад – Беларусь, якая стала “партызанскай рэспублікай”, больш ніводная з рэспублік СССР не атрымала такога ганаровага статусу.
Таму і ў рамках дадзенага даследавання плануецца выявіць як агульную канву фармавання памяці пра вайну, якую можна было б прызнаць універсальнай для ўсяго Савецкага Саюзу, так і тыя адметныя рысы, якія можна было б прызнаць асаблівасцямі савецкіх рэспублік. Але таксама і асаблівасцямі саміх гарадоў – Гародні, Харкава і Растова-на-Доне.
Гісторыя кожнага з гэтых гарадоў добра апісана, тут працуе мноства выдатных гісторыкаў і краязнаўцаў, але даследаванні гарадской гісторыі маюць свае абмежаванні. У рамках будучага даследавання будзе выкарыстоўвацца агульная метадалогія для вывучэння трох гарадоў, што дазволіць правесці параўнанне, вылучыць унікальнае і агульнае. Назвы вуліц і пляцаў, газетныя публікацыі, музейныя экспазіцыі – усе гэтыя сродкі фармавання памяці пра вайну будуць вывучацца і параўноўвацца.
У кастрычніку 2012 года ў Гародні, Харкаве, Растове-на-Доне пройдуць прэзентацыі, дзе можна будзе азнаёміцца з вынікамі даследавання, задаць свае пытанні і паўдзельнічаць у абмеркаванні.
Калі ж у вас цяпер ёсць пытанні, пажаданні і рэкамендацыі, каштоўная інфармацыя, то можаце смела пісаць удзельнікам даследавання:
Аляксей Ластоўскі (Беларусь), lastowski@gmail.com
Ірына Склокіна (Украіна), orysia2011@gmail.com
Раман Хандожка(Расія), ro.khan.man@googlemail.com



# *Міхал Фрыдэрык Чартарыйскі*

Міхал Фрыдэрык Чартарыйскі (26 красавіка 1696 — 13 жніўня 1775) — дзяржаўны дзяяч Вялікага Княства Літоўскага. Падстолі вялікі літоўскі (1720—1722), кашталян віленскі (1722—1724), падканцлер вялікі літоўскі (1724—1752), канцлер вялікі літоўскі (з 1752)[1].
Кавалер шэрагу ордэнаў: Белага Арла (1726), расейскага Андрэя Першазваннага (1754) і прускага Чорнага Арла (1764). Трымаў Гарадзенскае, Гомельскае і Купіскае староствы.З княскага роду Чартарыйскіх гербу «Пагоня», сын Казімера і Ізабэлы Альжбеты з Морштынаў.

Палітычны кіраўнік «фаміліі» ў 1740—1770-х. У 1720-я быў блізкім да Я. Г. Флемінга, першага міністра Аўгуста Моцнага.



Па сьмерці Аўгуста Моцнага (1733) падтрымаў Станіслава Ляшчынскага, у 1736 пагадзіўся з Аўгустам Сасам. У 1744—1750 спрабаваў правесьці рэформы дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай з апорай на падтрымку Расеі і Аўстрыі.

Па сьмерці Аўгуста Саса (1763) у 1764 пад аховай расейскіх войскаў зладзіў у Вільні Генэральную канфэдэрацыю Вялікага Княства Літоўскага, скіраваную супраць К. С. Радзівіла «Пане Каханку», і дамогся яго выгнаньня з краіны.

Аднак Кацярына II, каб не ўзмацняць «фамілію», ініцыявала ў 1767 Радамскую канфэдэрацыю на чале з К. С. Радзівілам. Да антырасейскай Барскай канфэдэрацыі не далучыўся, але выступаў супраць выкарыстаньня расейскіх войскаў для яе здушэньня. Удзельнічаў у дэлегацыі, якая падпісала трактат аб вызнаньні першага падзелу Рэчы Паспалітай. У 1763—1764 як галава «фаміліі» падтрымліваў кандыдатуру свайго пляменьніка Адама Казімера Чартарыйскага на сталец Рэчы Паспалітай.

Жонкай М. Ф. Чартарыйскага была Элеанора Моніка Валдштайн (1712—1795). Вясельле адбылося 30 кастрычніка 1726, пара мела 3 дачкі і сына:

- Антаніна (1728—1746), 13 лютага 1744 выйшла замуж за Яна Юрыя Флемінга
- Канстанцыя (1729—1749), 2-я жонка Яна Юрыя Флемінга
- Аляксандра (1730—1798)
- Антоні (памёр у 1753).

**Артыкул:** *Анатоль Грыцкевіч. Чартарыйскія // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 3 т. / рэд. Г. П. Пашкоў і інш. Т. 2: Кадэцкі корпус — Яцкевіч. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2005. С. 740.*



## *Алесь Краўцэвіч:*

# *«Гедымін у Беларусі заслугоўвае культу»*

Яшчэ сем гадоў таму дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура» кнігай пра Міндаўга запачаткавала сэрыю «Жыцьцяпісы вялікіх князёў літоўскіх». Тады ж аўтар сэрыі доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч падрыхтаваў наступны нарыс. Але з тае пары адносіны да ВКЛ ва ўладных структурах РБ зьмяніліся, і кнігу пра

Гедыміна гісторык вымушаны быў выдаваць у Польшчы. Чым прыцягальная постаць Гедыміна для нас і чаму дзяржаўныя ідэолягі адмаўляюцца ад спадчыны ВКЛ? Пра гэта Алесь Краўцэвіч раскажа ў «Вольнай студыі».




***— Алесь, чаму ўсё ж не атрымалася супрацоўніцтва з «Мастацкай літаратурай»?***

— Па простай прычыне — гэтае найбуйнейшае ў краіне дзяржаўнае выдавецтва аказалася несур'ёзным партнэрам. Па-першае, калі выйшаў «Міндаўг», яно зацягвала выплаты ганарараў аўтару і мастаку. Гады тры мастак-ілюстратар ня мог атрымаць грошы за сваю працу. А ён з гэтага жыў. Я ўжо не кажу пра свой ганарар — 360 тысячаў рублёў, — выдадзены кніжкамі. І то добра. Далей меўся быць працяг сэрыі. Наступная кніжка была падрыхтаваная і ў 2006 годзе перададзеная ў «Мастацкую літаратуру» — «Выпрабаваньне на трываласьць, або Ад Войшалка да Віценя». І ляжала там бяз руху, нягледзячы на абяцаньні і дырэктара выдавецтва, і яго намесьніка.

Таму я і прыйшоў да высновы, што з «Мастацкай літаратурай» супрацоўнічаць ня буду. Пачалі шукаць іншыя магчымасьці, знайшлі маладое прыватнае «Выдавецтва С. Татарнікавай». Яго заснавальніца — сястра вядомага мастака-графіка, таксама майго ілюстратара Паўла Татарнікава. І праца пайшла. Так атрымалася, што кніжка пра Гедыміна была выдрукавана раней, чым кніжка пра Войшалка і Віценя.

***— Чым цікавая і вызначальная для нас постаць Гедыміна?***

— Я лічу, што Гедымін у Беларусі заслугоўвае мець свой гераічны культ. Ён самым непасрэдным чынам спрычыніўся да стварэньня беларускага народу. Гедымін упершыню ў гісторыі аб'яднаў у адной дзяржаве ўсе галоўныя гістарычныя вобласьці Беларусі: Літву, Палесьсе, Полаччыну, Віцебшчыну, Тураўшчыну, Магілёўшчыну, Берасьцейшчыну і Гарадзеншчыну. Гэта адбылося дзесьці ў 40-я гады XIV стагодзьдзя. І менавіта гэтае аб'яднаньне загарантавала пасьпяховы этнагенэз беларусаў. Таму ў Беларусі павінны быць плошчы Гедыміна, помнікі Гедыміну, павінна быць дзяржаўная прэмія імя Гедыміна, ордэн Гедыміна. Вось як у грузінаў ёсьць Давыд-Будаўнік, так і Гедымін у нас заслугоўвае гэтага прыдомка — Гедымін-Будаўнік, Гедымін Вялікі. Ён быў будаўніком як у прамым сэнсе, так і ў пераносным. Ён будаваў магутныя замкі для абароны ад крыжакоў, ён будаваў дзяржаву.

***— Існуе гэткае агульнапрынятае меркаваньне, пацьверджанае афіцыйным гімнам: мы, беларусы, мірныя людзі, мы ніколі не нападалі, мы толькі абараняліся. Як Гедымін будаваў дзяржаву? Выключна мірным шляхам? Наўрад ці гэта было магчыма.***

— Не выпадае гаварыць пра выключна мірны шлях, але — пераважна мірны шлях. Галоўная адметнасьць Гедыміна як палітыка і дзяржаўнага дзеяча ў тым, што ён, у адрозьненьне ад

сярэднявечных манархаў, аддаваў перавагу дыпляматыі перад вайсковай сілай. Калі можна было выкарыстаць дыпляматыю, ён яе выкарыстоўваў і гэтым увайшоў у шэраг выбітных тагачасных дзеячоў, якія кіравалі ў розных краінах Эўропы — гэта і Душан у Сербіі, і Казімір Вялікі ў Польшчы, і Іван Каліта ў Масковіі. Гедымін далучыў беларускія землі да Літвы, да цэнтральнай вобласьці Беларусі непрыкметна, і гэта сьведчаньне таго, што працэс адбываўся мірна. Гісторыкі ня могуць знайсьці ў крыніцах зьвестак на гэты конт. Толькі з Гедымінавага тэстамэнту вынікае, што Піншчына была ў складзе дзяржавы, Полаччына была ў складзе дзяржавы і г.д. Але, ізноў жа, калі ён далучаў землі мірна, за гэтым стаяла вайсковая моц ягонай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага. Са слабым ніхто б не аб'ядноўваўся, да слабога па ўласнай ахвоце ніхто ў Сярэднявеччы не далучаўся б. Як, дарэчы, і сёньня.

***— У тваёй кнізе падрабязна расказваецца, як Гедымін намерваўся прыняць каталіцтва. Прыехалі пасланьнікі папскіх легатаў, а ён іх нават не прыняў… Чаму вялікі князь адмовіўся ад свайго намеру?***

— Калі дынамічная заходнеэўрапейская цывілізацыя распачала сваю экпансію, перад праблемай палітычнага выбару стаяў ужо Міндаўг. Як ведаем, ён спачатку прыняў каталіцтва, а потым ад яго адмовіўся. Адначасова мелі месца і аб'ектыўныя працэсы: прыходзіла эўрапейская матэрыяльная культура (Камянецкая вежа — першая праява), прыходзілі эўрапейскія ўзоры ўзбраеньня, ад немцаў перайманыя. Гэта была сіла. А ў Сярэднявеччы далучэньне да нейкай цывілізацыі азначала прыняцьце яе рэлігіі. І мусілі выбіраць і Міндаўг, і Віцень, і Гедымін. Мы ведаем, што гэты выбар палітычны зрабіў Ягайла. Ён аформіў тэндэнцыю, якая ўжо праявілася. Ягайла прыняў палітычнае рашэньне сьвядомай арыентацыі на Захад у канцы XIV стагодзьдзя.




***— Але ці не было гэта запозна?***

— Гэта сталася тады, калі насьпелі прычыны. Гедымін хацеў гэта зрабіць, але не далі абставіны. Ён разважаў як тактык і палітык, ён ня быў рэлігійным фанатыкам. Гедымін трактаваў веру як палітычную катэгорыю — якую гэта выгаду прынясе яму і яго краіне. Дзякуючы гістарычным крыніцам, мы маем вельмі дэталёвую справаздачу пасланьнікаў папскіх легатаў і ведаем, як усё было. Гедымін прыняў рашэньне, напісаў да Папы Рымскага ліст пра свае намеры. Дарэчы, не адзін ліст ён выслаў і да заходнегерманскіх гарадоў, каб прысылалі да яго каляністаў, прыяжджалі ў яго краіну, што ў яго дзейнічаюць прапаведнікі манахі — мінарыты, францішкане і дамінікане. Калі ласка — чакаем. Легаты прыехалі ў

Рыгу, а з Рыгі паслалі сваіх давернікаў да Гедыміна, каб атрымаць пацьверджаньне, што так, ён прымае каталіцтва. Але сытуацыя памянялася. Была там і апазыцыя жамойтаў-язычнікаў унутры краіны, і аказалася, што прыняцьце хрысьціянства ня вырашыць галоўнай палітычнай задачы Гедыміна — неўтралізацыі Тэўтонскага ордэну. Галоўная задума Гедыміна якая? Я станаўлюся каталіком, і крыжакі на мяне ня змогуць нападаць, бо гэта супярэчыць сэнсу іх існаваньня — яны змагаюцца толькі з язычнікамі. Аказалася — нічога падобнага. Крыжакі ваююць і з польскім каралём-каталіком! Каталіцтва іх не спыняе. Таму Гедымін прыкінуў так: апазыцыя моцная, ад крыжакоў не ўратуе — праняцьце каталіцтва ня мае сэнсу.

***— Ня так даўно адзін з ідэолягаў беларускай улады Леў Крыштаповіч заявіў, што гістарычная спадчына Вялікага Княства Літоўскага аніякіх адносінаў да Рэспублікі Беларусь ня мае. І Сапегі, і Радзівілы — гэта ня нашы дзеячы. Ці могуць гэтыя словы ператварыцца ў нейкія дырэктывы для ўсёй ідэалягічнай вэртыкалі?***

— Заява Крыштаповіча — выразная праява каляніяльная палітыкі адносна Беларусі. Гэта сьведчаньне таго, што не самастойны ні сам Крыштаповіч, ні яго патрон. Каб заваяваць народ, трэба пазбавіць яго гісторыі, і вось у гэты кантэкст укладаецца выступ Крыштаповіча. У беларусаў чарговым разам спрабуюць адабраць гісторыю. Але ў гэтым пляне я зьяўляюся аптымістам. Крыштаповіч, Рубінаў ці хтосьці ім падобны могуць выдаваць дырэктывы, але яны ня змогуць пераламаць у масавай сьвядомасьці тое, што мы, гісторыкі, напрацавалі. Гэтыя ідэолягі маюць адну добрую якасьць, уласьцівасьць, яны, вобразна кажучы, — ялавыя, яны ня могуць нічога стварыць. Яны могуць толькі разбураць. А мы за апошнія 20 гадоў нешта стварылі. Адукаваную частку беларускага грамадзтва ня трэба пераконваць у тым, што Вялікае Княства Літоўскае было і беларускай дзяржавай. Але праблема тут ёсьць: мы перамагаем у навуцы, у змаганьні за актыўную частку беларускага грамадзтва, але нас не дапускаюць у сыстэму дзяржаўнай адукацыі.

***— І прыканцы гутаркі давай вернемся да выхаду тваёй кнігі «Гедымін: каралеўства Літвы і Русі». Яе прыемна ўзяць у рукі, гэта паліграфічны шэдэўр. Скажы колькі словаў пра свайго суаўтара — мастака-ілюстратара.***

— Мой суаўтар — таленавіты малады графік, выкладчык Акадэміі матацтваў Ігар Гардзіёнак. Ілюстрацыі зробленыя на вельмі высокім узроўні, мастак працаваў з добрым веданьнем матэрыяльнай атрыбутыкі Сярэднявечча. Кансультаваў яго прафэсар Юрась Бохан. У наш час увага, цікавасьць да кнігі губляюцца. Як некалі паэты пачалі сьпяваць свае тэксты, сталі бардамі — і ўзьнялі сваю папулярнасьць, так і я стараюся свае кнігі даваць на аздабленьне выдатным мастакам-ілюстратарам. І гэта якраз той выпадак, калі, дзякуючы гістарычна дакладнаму аздабленьню Ігара Гардзіёнка, кніга пра Гедыміна мецьме попыт. Гэтаму павінна паспрыяць і тое, што кніга дзьвюхмоўная — на беларускай і ангельскай мовах. І вось жа дзіўна атрымліваецца — выдаваць беларускую кнігу ў Польшчы, пры ўвозе заплаціўшы мытны падатак, атрымліваецца таньней, чым у роднай краіне.

# Беларускія гісторыкі

## Іван Віткоўскі

Іван Антонавіч Віткоўскі (2 траўня 1888, вёска Чэрчыцы Аршанскага павету, цяпер Шумілінскі раён — 27 сьнежня 1937) — беларускі гісторык. Прафэсар (1932).

У 1912 скончыў Петраградзкую каталіцкую духоўную сэмінарыю, У 1914 — 2 курсы Петраградзкай духоўнай акадэміі. 3 1916 служыў вікарыем (памочнікам ксяндза) Мазырскага касьцёла. У 1918 пазбаўлены духоўнага сану. У 1919 добраахвотна пайшоў у Чырвоную армію. 3 1921 на Віцебшчыне на партыйнай рабоце, працаваў выкладнікам і прарэктарам Віцебскага вэтэрынарнага інстытуту. У Менску з 1925: выкладнік Камуністычнага ўнівэрсытэту імя Леніна, намесьнік загадчыка польскага аддзела Інбелкульту, намесьнік, а потым дырэктар Інстытута польскай пралетарскай культуры. Адначасова ў пэдагагічным інстытуце ўзначальваў катэдру гісторыі і выкладаў гісторыю Беларусі, СССР, Польшчы. 26 ліпеня 1933 незаконна арыштаваны. Пасьля трохрочнага зьняволеньня працаваў у месьце Баравічы Ленінградзкай вобласьці. 2 лютага 1937 паўторна незаконна арыштаваны і этапаваны ў Менск. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1959.

Аўтар працаў па гісторыі нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху на Беларусі, паўстаньня 1863—1864 рр.: «1863 год на Меншчыне» (1927, у сааўтарстве), «Паўстаньне 1863 году і расейскі рэвалюцыйны рух пачатку 1860 гадоў» (кніга 3, 1931) і іншых.

**Крыніца:** *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мінска. У 4 кн. Кн. 2-я. — Мн.: БЕЛТА, 2002. С. 552—553.*



## Грамадзкія каштоўнасьці Ўніяцкай царквы ў XVIII ст.

Здавалася б, царкоўная гісторыя русінаў у XVIII ст. ня мае амаль нічога агульнага з праблемай грамадзянскай супольнасьці. На думку большасьці навукоўцаў, гэта была гісторыя не дадатнага грамадзянскага досьведу, але пазбаўленьня правоў, перасьледу, ахвяраў і пакутаў. Гэта была гісторыя канфлікту, гісторыя змаганьня паміж абаронцамі праваслаўя і прыхільнікамі уніі з Рымам. Яна зьмянялася разам зь вялікім палітычным наратывам гэтых тэрыторыяў. Уніяцкая царква вяла рэй, калі рускія землі ўваходзілі ў склад Польска литоўскай дзяржавы. Калі яны апынуліся пад уладай Расеі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай, аднавілася панаваньне Праваслаўнай царквы. Гісторыкі надта часта вызначаюць, хто быў героем, а хто — ліхадзеем, зыходзячы з сваіх асабістых палітычных прыхільнасьцяў. Русафілы асуджаюць уздым Уніяцкай царквы як праяву перасьледу праваслаўных русінаў каталікамі палякамі. Палянафілы, у сваю чаргу, асуджаюць наступнае прымусовае навяртаньне ўніятаў у праваслаўе як праяву перасьледу ў Расейскай імпэрыі. Наяўныя крыніцы даюць дастаткова матэрыялаў, каб

даводзіць і першае, і другое. Аднак падобны тэндэнцыйны падыход да царкоўнай гісторыі русінаў — бясплённы. Насамрэч ён не дапамагае зразумець уплыву Ўніяцкай і Праваслаўнай цэркваў на разьвіцьцё рускай культуры і каштоўнасьцяў, а наадварот.

Бясспрэчны гістарычны факт: пераважная большасьць русінаў на беларускіх землях больш як два стагодзьдзі належала менавіта да Ўніяцкае царквы. Пасьля 1596 г. Уніяцкая царква заняла тут дамінантнае становішча значна хутчэй, чым ва Ўкраіне, і працягвала весьці рэй, пакуль улады Расейскай імпэрыі ў 1839 г. не прымусілі вернікаў перайсьці ў праваслаўе. Незалежна ад таго, хто быў ахвярай, а хто — катам, Уніяцкая царква доўгі час уплывала на станаўленьне беларускай культурнай ідэнтычнасьці, і неабходна зьвярнуць больш увагі на асноўныя характарыстыкі гэтай царквы, каб вызначыць ейную ролю ў грамадзка-культурным разьвіцьці Беларусі. Трэба памятаць: ад 1596 г. да XVIII ст. Уніяцкая царква сфармавалася як асобная канфэсія, якая спалучала ўсходнюю і заходнюю традыцыю, што і замацаваў Сабор у Замосьці ў 1720 г. Трэба таксама памятаць: гэта не была нацыяналістычная Грэка-каталіцкая царква XIX ст. — на той час нацыянальных канатацыяў не назіралася. Але існавалі палітычныя канатацыі. Адданасьць Уніяцкай царкве зьвязвалася зь вернасьцю польска-літоўскай Рэчы Паспалітай. Таму пэўныя грамадзка-культурныя каштоўнасьці пранікалі ў вучэньне царквы. А значыць, разгляд вучэньня Ўніяцкай царквы XVIII ст. дае нейкае ўяўленьне пра грамадзка-культурныя каштоўнасьці, што пашыраліся на беларускіх землях. Само гэтае вучэньне ў нечым раскрывае гістарычныя асаблівасьці грамадзянскай прасторы, зь якой паўстала сучаснае беларускае грамадзтва.

Навучальныя дапаможнікі па маральнай тэалёгіі, выпушчаныя базылянамі для парафіяльных сьвятароў, уяўляюць зь сябе каштоўную крыніцу, каб дасьледаваць пранікненьне грамадзка-культурных каштоўнасьцяў Рэчы Паспалітай ва Ўніяцкую царкву. У іх тлумачыліся складнікі ўніяцкае веры, закон Божы і царкоўны, сутнасьць сакрамэнтаў. Першую такую кніжку ўклаў супэрыёр базылянаў (пазьней мітрапаліт) Лявон Кішка ў 1693 г., іншыя ствараліся і друкаваліся праз усё XVIII ст. Яны грунтаваліся на прынцыпах маральнай тэалёгіі Каталіцкай царквы і складаліся як дэталёвае тлумачэньне пэнітэнцыярыя з практычнымі парадамі сьвятарам, як лепш выконваць душпастырскія абавязкі ў сьвятле пастановаў Трыдэнцкага Сабору. У дадатку да асноўнага катэхізісу ва ўніяцкіх кніжках таксама выкладаўся практычны падыход да тлумачэньня складнікаў веры і абрадаў. Справаздачы зь візытацыяў і з парафіяў сьведчаць, што да канца XVIII ст. гэтыя дапаможнікі шырока выкарыстоўвалі ўніяцкія парафіяльныя сьвятары. А з тагачасных дакумэнтаў Уніяцкай царквы, датычных наданьня сьвятарскага стану, відаць, што ўсе кандыдаты на сьвятарства мусілі ведаць асновы маральнай тэалёгіі царквы[1]. Кім бы ні была Ўніяцкая царква — ахвярай ці катам, — праз маральную тэалёгію яна ўлучыла ў свой навучальны канон юрыдычна-праўныя і практычныя падыходы Каталіцкай царквы. Такім чынам, уніяцкія парафіяльныя сьвятары

ў сваёй працы кіраваліся зусім іншымі грамадзкімі каштоўнасьцямі, чым тыя, што прапагандавала Праваслаўная царква.
Прафэсар катэдры гісторыі ўнівэрсытэту Індыяны (Indiana State University, Terre Haute). Доктар філязофіі Джорджтаўнскага ўнівэрсытэту (2001, тэма дысэртацыі «Імпэратрыца і ерэтыкі: палітыка Кацярыны II адносна Ўніяцкай царквы, 1762—1796»). У сфэру яе навуковых зацікаўленьняў уваходзіць Расея, раньнемадэрная Эўропа і эўрапейскія жанчыны. Падрыхтавала да друку манаграфію «Faith and Identity in Russia's Western Borderlands: the Suppression of the Uniates, 1772—1839».
Самая відавочная рыса ўніяцкіх кніжак па маральнай тэалёгіі, зьвязаная з фармаваньнем грамадзянскай сьвядомасьці, — акцэнт на закон і праўныя структуры грамадзтва. У разьдзелах, што падрабязна распавядаюць пра закон Божы, уводзіцца асноватворная заходняя канцэпцыя закону як натуральнага працягу дзесяці прыказаньняў. Напрыклад, Кішка пачынае разьдзел, прысьвечаны дзесяці прыказаньням, з кароткага пераліку формаў закону (адвечны, Божы, чалавечы і прыродны) і ўмоваў, неабходных для ўвядзеньня закону: сярод іншага, ён павінен ствараецца дзеля дабра грамадзтва (dla dobra pospolitego), быць справядлівым і належным чынам абвяшчацца, выконвацца і ўхваляцца. Такім чынам, да канца XVII ст. ва ўніяцкую маральную тэалёгію ўвайшлі падставовыя заходнія канцэпты справядлівасьці, агульнага дабра і празрыстасьці закону.
Гэты акцэнт на законе адлюстроўвае доўгую гісторыю заходняй праўнай традыцыі і заканадаўчай практыкі ў грамадзка□палітычных структурах Рэчы Паспалітай. Першым акцэнт на закон зрабіў у сваёй кнізе Кішка, а ў пазьнейшых выданьнях па маральнай тэалёгіі гэты прынцып выкладаўся нашмат глыбей і падрабязьней. У папулярнай кнізе па маральнай тэалёгіі а. Нарольскага, упершыню выдадзенай у 1777 г., да прыкладу, падкрэсьлівалася роля папы як заканадаўчага галавы Каталіцкай царквы, а пра сьвецкія ўлады гаворыцца ў сьвятле іх заканадаўчых паўнамоцтваў як вышэйшых над усімі іншымі. У тым самым разьдзеле аналізуецца розьніца паміж вонкавым законам, усталяваным Богам, царквою і дзяржавай, і ўнутраным законам уласнага сумленьня3. Больш за тое: гэты разьдзел зьмешчаны на першых жа старонках кнігі, таму сьвятары, якія ёю карысталіся, бачылі, што апісаньне закону і праўнае замацаваньне прынятых у грамадзтве нормаў ідуць першымі паводле значнасьці.
Напрыклад, у справаздачах, пададзеных на загад Паўла I, з уніяцкіх парафіяў, што заставаліся ў 1797 г. у Беларускай, Менскай і Валынскай губэрнях Расейскай імпэрыі, адзначалася, што ў адукацыі парафіяльных сьвятароў заўсёды прысутнічае маральная тэалёгія. Расейскі дзяржаўны гістарычны архіў, Санкт-Пецярбург, ф. 824, воп. 2, д. 113, 114, 116.
2 Kiszka, Leon. Now Rożnych Przypadkow, z Pełni Doktorow Theologii Moralniej ziawiony. To iest: Kazusy Ruskiemu Duchowieństwu. Lublin, 1693. S. 225—226. Тут цытуецца: Bonaventura, C. De Legibus.
Ва ўніяцкіх кнігах па маральнай тэалёгіі таксама падкрэсьлівалася, як важна шанаваць дамову, кантракт — гэты

істотны грамадзкі абавязак трапляў у лік абавязкаў хрысьціяніна.
Уніяцкіх сьвятароў як грамадзянаў Рэчы Паспалітай, верных ейным праўным традыцыям, навучалі выхоўваць у парафіянаў павагу да абавязкаў, што вынікаюць з кантракту. Разглядаючы сем сакрамэнтаў, у дадатку да развагаў пра шлюб як кантракт, Кішка падае вызначэньне кантрактаў і іх агульнае апісаньне, каб памагчы сьвятарам выконваць свае абавязкі:
Паколькі Шлюб — гэта кантракт, заключаны паміж дваімі людзьмі, трэба, каб у гэтым разьдзеле было сказана пра кантракты, пра якія Сьвятарам абавязкова ведаць, каб слухаць споведзь, бо Кантракт — гэта пагадненьне паміж людзьмі з абавязкам яго выконваць… Трэба таксама ведаць, што, калі хто заключае кантракт па памылцы або ўведзены ў зман, той ім не зьвязаны, і кантракт нельга заключаць у страху, бо страх касуе свабоду дзеяньняў пры заключэньні кантракту, як вучыць Арыстотэль (Этыка 3)…
Як і ў рымакаталіцкіх кнігах па маральнай тэалёгіі, абавязак выконваць кантракт лічыўся справай сумленьня, таму ён меў вялікую важнасьць для сьвятароўдухоўнікаў. Кішка пералічвае розныя віды кантрактаў, у т. л. набыцьця і продажу (пры гэтым згадваецца прынятая ў Рэчы Паспалітай практыка), пазыкі, арэнды, кампаньёнства, найму на працу, гарантыйныя лісты, вэксалі, дарчыя запісы, запаветы.
Падрабязьней за ўсё раскрывае гэтую тэму а. Антоні Каранчэўскі — у ягонай кнізе па маральнай тэалёгіі 156 старонак адводзіцца апісаньню кантрактаў6. (Даўжэйшыя — толькі разьдзелы, прысьвечаныя асноватворным складнікам уніяцкае веры: 219 старонак — пра сакрамэнты і 178 — пра прыказаньні Божыя і царкоўныя.) Ва ўступе да разьдзелу пра кантракты сьвятарбазылянін тлумачыць:
Веданьне ці вывучэньне кантрактаў надзвычай патрэбнае і карыснае духоўным асобам, асабліва Парафіяльнаму Сьвятару і Духоўніку, тым больш, што праз хітрасьць і мудрагельства грэх у гэтай форме павялічваецца, ахопліваючы людзей усіх Клясаў і Станаў; каб духоўнік мог весьці іх зь лябірынту і ад фальшывых стараньняў, ён мусіць перадусім ведаць шляхі, якімі ў кантракце павінен ісьці чалавек, не абцяжарваючы сумленьня.
Разумеючы, што сьвет робіцца ўсё больш і больш складаным, Каранчэўскі выступае за тое, што кожны парафіяльны сьвятар, каб дзейсным чынам настаўляць сваіх парафіянаў, мусіць быць добра дасьведчаным у гэтых пытаньнях. Імкнучыся дасягнуць сваёй мэты, на наступных старонках Каранчэўскі склаў фактычна кішэнны падручнік па кантрактным праве. Ён ня толькі прапануе сьвятару развагі пра кантракты ўвогуле і падрабязна апісвае асобныя тыпы кантрактаў. Каранчэўскі таксама дае зьвесткі пра абавязковыя складнікі кожнага віду кантрактаў, каб сьвятар мог бязь цяжкасьцяў сам укласьці кантракт. Каранчэўскі дае вычарпальнае апісаньне тыпаў кантрактаў, у т. л. вэксаляў і дарчых, апошняе волі і запаветаў, пазыкаў, закладаў, дамоваў аб набыцьці і продажы, займах, арэндзе, інвэстыцыях, падаўжэньні крэдыту і г. д.. У адпаведнасьці з эўрапейскай традыцыяй шанаваньня абавязкаў, што вынікаюць з кантракту, Каранчэўскі піша:3 Narolski, J. Teologia Moralna albo Do Obyczajów Sciągaiąca się przez Pewnego Bazyliana Kapłana Prowincyi Litewski zebrana na

dwie częsci podzielona. Wilno, 1777. Cr. I. S. 1—9.

4 Kiszka, Leon. Тамсама. С. 158—159.

5 Кантракты, пералічаныя Кішкам, вельмі нагадваюць інфармацыю, уключаную ў папулярную ў Заходняй Эўропе «Medulla theologiae moralis» Германа Бузэнбаўма, а таксама ў маральную тэалёгію Ратарыюса, якой карысталіся ў Польшчы каталікі абодвух абрадаў (Rotarius, Thomas Francisco. Apparatus Universae Theologiae Moralis).

6 Koronczewski, Antoni. Theologia Moralna dla sposobiących się do stanu kapłanskiego. Y owszem: dla wszystkich duchownych staranie dusz ludzkich maiących. Cz. 1 i 2. Suprasl, 1779. У часе выданьня кнігі а. Каранчэўскі быў адначасова архіпрэзьбітэрам Берасьцейскага сабору і архідыяканам Валадзімірскім.

7 Koronczewski, Antoni. Theologia Moralna… T. II. S. 254. Кантрактам прысьвечаны асобны разьдзел: Rozdział I. T. II. Traktat o kontraktach.

Кожны Кантракт сапраўдны нават сам па сабе, калі ён і не задзейнічае Закону; ён абавязвае сумленьне, каб ён выконваўся ў добрай Веры. Іначай Супольнасьць і Грамадзтва паміж людзей не маглі б існаваць.

Зьмест гэтага разьдзелу з кнігі Каранчэўскага сьведчыць, што сацыяльнаэканамічная сытуацыя ў тагачаснай Польскалітоўскай Рэчы Паспалітай усё больш і больш ускладнялася.

Для нас вельмі цікавае перакананьне аўтара, што парафіяльнаму сьвятару важна разумець гэтыя рэчы. Каб дзейсна кіраваць царкоўнай паствай, ужо недастаткова было ведаць асноўныя догматы веры. Сьвятар мусіў разумець усё больш і больш складаны сьвет, у якім жыла ягоная парафія, і быць ягонай часткай, каб паранейшаму карыстацца даверам як духоўнік, галоўнае прызначэньне якога — быць судзьдзём добрых і дрэнных паводзінаў сваіх прычасьнікаў. Сьвятару было неабходна ведаць закон і правілы, што вынікаюць з кантрактных абавязкаў.

Варта адзначыць яшчэ некалькі прыкладаў таго, што ва ўніяцкіх кнігах па маральнай тэалёгіі цэнтральнае месца адводзілася закону і праўным паняткам. Ва ўсіх дапаможніках, да якіх мы тут зьвяртаемся, развагі пра прыказаньне «ня крадзь» уключалі юрыдычнае апісаньне звароту маёмасьці або кампэнсацыі за яе10. У дадатак у большасьці дапаможнікаў падрабязна разглядаецца сыстэма юрыспрудэнцыі. Нарольскі спыняецца на патрабаваньнях, якім мусіць адпавядаць справядлівая судовая сыстэма, што вядзе працэс належным чынам і ў адпаведнасьці з законам, калі судзьдзі дзейнічаюць этычна і гуманна, заўсёды памятаючы пра сьвятасьць закону, не прызначаючы ані меншага, ані большага пакараньня, чым тое, якога вымагае закон … Да таго ж, у развагах пра прыказаньне «ня сьведчы ілжыва» таксама прыводзяцца падрабязныя апісаньні судаводзтва ў справах хлусьні, вуснага паклёпу, падробкі дакумэнтаў, ілжывага абвінавачваньня і іншых спосабаў дыфамацыі.

У гэтых уніяцкіх кампэндыюмах з маральнае тэалёгіі, якія адлюстроўвалі праўныя і кантрактныя нормы, прынятыя ў Рэчы Паспалітай, выяўляліся грамадзкія каштоўнасьці, карэнным чынам адрозныя ад тых, што мы заўважаем у навучальных матэрыялах для праваслаўных. Аслабленая руская праваслаўная супольнасьць Рэчы Паспалітай усё

больш залежала ад літаратуры, друкаванай за мяжой, у Расейскай імпэрыі. Пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай яны і ўсе навернутыя ўніяты сталіся вернікамі Расейскай праваслаўнай царквы, якую ўзначальваў Сьвяты Сынод.

У катэхізісах і навучальных дапаможніках, надрукаваных у Расейскай імпэрыі (збольшага напісаных царкоўнікамі ўкраінскага паходжаньня, што вучыліся ў Кіеўскай Акадэміі), прасочваецца тэндэнцыя спрыяць пашырэньню вернасьці абсалютнай уладзе манарха, усталяванай у выніку пятроўскіх рэформаў.

Найбольш заслугоўвае ўвагі катэхізіс, складзены для Расейскай праваслаўнай царквы ў 1720 г. Феафанам Пракаповічам. Хоць ад 1649 г. у Расеі раз□пораз друкавалі катэхізіс Пятра Магілы, першы катэхізіс, які атрымаў шырокі распаўсюд, склаў Пракаповіч. Ён ствараўся практычна адначасова з «Духовным регламентом» (1721 г.), якім рэгулявалася дзейнасьць царквы, у прыватнасьці, патрыярхат замяняўся на раду Сьвятога Сыноду. Катэхізіс передрукоўваўся праз усё XVIII ст., парафіяльныя сьвятары мусілі ведаць гэтую кнігу і чытаць зь яе сваім парафіянам. Да канца XVIII ст. катэхізіс ведала таксама праваслаўнае насельніцтва, што засталося на беларускіх землях Рэчы Паспалітай, — гэта была першая кніга, выдадзеная ў друкарні, заснаванай беларускім біскупам Георгіем Каніскім у Магілёве пасьля ягонага прызначэньня на пасад у 1755 г.

Нават у кароткім катэхізісе яскрава відаць адрознае разуменьне грамадзянскай супольнасьці ў параўнаньні з уніяцкімі кнігамі. Найбольш уражвае тое, як Пракаповіч тлумачыць сэнс, укладзены ў прыказаньне «шануй бацьку твайго і маці тваю». Пракаповіч навучае праваслаўных вернікаў шанаваць перадусім цара і іншыя ўлады — пры гэтым асаблівая ўвага надаецца выканаўчай, а не заканадаўчай уладзе. У сьвятле гэтага прыказаньня ён прыпісвае вернікам абавязак «шанаваць усіх тых, хто ёсьць нам бацькамі і маткамі», у т. л. ня толькі кроўных бацькоў, але і «іншых, хто ажыцьцяўляе над намі бацькоўскую ўладу». Як піша Пракаповіч, герархія ўлады пачынаецца ад цара:

Першы парадак такіх людзей — найвышэйшыя ўлады, пастаўленыя Богам кіраваць людзьмі, сярод якіх найвышэйшая ўлада — цар. Абавязак валадароў — абараняць сваіх падданых, імкнуцца да таго, што для іх найлепш у справах і рэлігійных, і сьвецкіх… Гэта ў Бога найвышэйшая бацькоўская годнасьць, а падданыя, як добрыя дзеці, мусяць шанаваць цара.

Другі парадак бацькоўскае ўлады — «вышэйшыя начальнікі над людзьмі, падуладныя цару, а менавіта: царкоўныя пастыры, сэнатары, судзьдзі і ўсе іншыя ўлады цывільныя і вайсковыя». Кроўныя бацькі ідуць трэцім парадкам за тымі, хто «нясе адказнасьць за агульнае дабро, а значыць, і большую годнасьць».

Гэтае вытлумачэньне, што ставіць паслухмянасьць перад дзяржавай у першую чаргу паводле значнасьці, паўтаралася і ў іншых, больш спрошчаных катэхізісах, якімі да канца XVIII ст. карысталіся праваслаўныя сьвятары па абодва бакі расейска□польскай мяжы.

Калі ва ўніяцкіх кнігах па маральнай тэалёгіі падкрэсьліваліся заканадаўчыя

аспэкты, дык у тагачаснай расейскай праваслаўнай літаратуры праўныя паняткі апісваліся цьмяна, закон рэдка дзе называўся вонкавай асновай грамадзтва. У 1787 г. выйшла друкам кніга хрысьціянскіх настаўленьняў на кожны дзень для духоўных і сьвецкіх галоваў сем'яў. У ёй быў разьдзел з дваццацю сямю настаўленьнямі «пра закон», у якім увогуле не гаворыцца пра прынцыпы права. Замест іх разглядаюцца агульныя прынцыпы хрысьціянскай этыкі: імкненьне рабіць дабро, пераадоленьне спакусы, пазьбяганьне грахоў і слабасьцяў, важнасьць дабрадзейства дзеля веры і г. д. Па сутнасьці ў гэтых настаўленьнях асноўная ўвага надавалася ўнутранай дысцыпліне, якой мусіць кіравацца чалавек у сваіх учынках, і рэлігійным прынцыпам. У ёй ня згадваюцца вонкавыя мэханізмы кантролю праз грамадзянскае ці звычаёвае права. У той самай кнізе пры разглядзе пятага (паводле праваслаўнай традыцыі) прыказаньня (як можна здагадацца, у ім выхоўваецца найперш паслушэнства перад уладамі, карыснымі грамадзтву, — найперш перад манархам і іншымі вышэйшымі ўладамі) працягваюцца развагі, што значыць «сапраўдны грамадзянін». Гэта «дабрадзей… беззаганных і шляхетных паводзінаў, [які] можа заўсёды знаходзіцца ў бесьперапыннай гармоніі з добрай воляй усіх, хто навокал».

У апісаньні сярод якасьцяў сапраўднага грамадзяніна ня згадваецца выкананьне вонкавых праўных нормаў.

Замест гэтага дасягненьне клясычных мэтаў гармоніі, парадку і міру прыпісваецца ўменьню кіравацца ўнутраным сумленьнем. Адпаведна, у наступным настаўленьні «Пра абавязкі грамадзяніна» добрага грамадзяніна навучаюць ведаць свае абавязкі, выбіраць дабро, кантраляваць жарсьці, супрацьстаяць злу, пазьбягаць раскошы і багацьця і шукаць толькі Божай любові добрымі ўчынкамі дзеля іншых людзей і дабрачыннасьцю на карысьць грамадзтва. Настаўленьні красамоўна пераконваюць чытача трымацца Новага Запавету і клясычных цнотаў, спалучаць духоўныя і грамадзкія мэты, але яны маўчаць пра ролю вонкавых законаў і правілаў.

Такім чынам, дасьледаваньне ўніяцкіх і праваслаўных навучальных матэрыялаў XVIII ст. сьведчыць пра два зусім розныя падыходы да асноваў грамадзянскай супольнасьці. Уніяцкая канцэпцыя прызнае неабходнасьць грамадзянскага права як першараднага складніка працьвітаньня грамадзтва і кіруецца патрабаваньнямі празрыстай, яснай і ўсё больш разьвітай праўнай традыцыі. Парафіяльныя сьвятары мусілі разумець асновы права і кантрактных нормаў, прынятых у грамадзтве Рэчы Паспалітай. У адрозьненьне ад гэтага, сацыяльныя асновы расейскага праваслаўя у час пасьляпятроўскага абсалютызму ў Расейскай імпэрыі палягалі на ўладзе патрыярхальнага манарха і ягоных чыноўнікаў. Расейская праваслаўная літаратура XVIII ст. падрабязна казала пра ўнутраныя маральныя законы і хрысьціянскую этыку, але не прызнавала каштоўнасьцяў вонкавых праўных структураў. Затое галоўная ўвага надавалася выканаўчай уладзе.

Пры пераасэнсаваньні гісторыі рускай культуры і грамадзтва большай увагі заслугоўвае той факт, што Ўніяцкая і Праваслаўная цэрквы прапагандавалі прынцыпова розныя ідэалы ў самай простай выхаваўчай літаратуры — нават на элемэнтарным узроўні навучаньня

дзесяці прыказаньняў. Розьніца паміж гэтымі ідэаламі, якая выявілася цягам XVIII ст., азначала, што перавод уніятаў у расейскую праваслаўную веру пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай цягнуў за сабою кардынальную зьмену грамадзка□палітычных каштоўнасьцяў. Пра гэта трэба памятаць, дасьледуючы разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці (асабліва што датычыць адданасьці прынцыпам вяршэнства права) у рэгіёне, дзе цяпер знаходзіцца незалежная Беларусь.

**Артыкул:** *Барбара Скінер*



# Кніжная шафа мітрапаліта Жахоўскага, 1680 г.

Нажаль, у нашым краі не захавалася нічога, аналягічнага бібліятэцы ў Эскорыал, у чым мы магі-бы бачыць выгляд кнігазбораў у тутэйшых інтэр'ерах XVI-XVII ст.



Рэдкае выключэньне знаходзім у Дзяржаўным мастацкім музэі на партрэце Цыпрыяна (Кіпрыяна) Жахоўскага (Żochowski) (1635 — 1693), мэтрапаліты Кіеўскага і ўсяе Русі, датаваным 1680 годам, са збораў Радзівілаў у замкавым палацы ў Нясьвіжы. Рэдкасьці гэткай выявы ёсьць свае прычыны. Арыстакратыя не паказана на патрэтах у бібліятэках: справаю шляхты была вайна, зброя (зрэдку бачым асобны малітоўнік у руцэ), бо кніжкі былі справаю найперш духавенства. Партрэты духавенства звычайна паведамлялі ці то пра набожнасьць, ці то кананічную ўладнасьць, а не пра кнігалюбнасьць. Як будзе згадана ніжэй, Жахоўскі, займаючы крыху сьпэцыфічнае становішча ў тагачасным каталіцкім сьвеце, як уніяцкі мітрапаліт, і ў кантэксьце тагачаснай барацьбы вакол уніі ды контр-рэфармацыйнае барацьбы, магчыма меў асаблівыя прычыны паказацца на партрэце зь менавіта гэтымі, паказанымі там кнігамі.

Канешне, — нават зыходзячы з дапушчэньня, што Жахоўскі тут намаляваны ў нейкім рэальным, а ня ў цалкам сымбалічным інтэр'еры, — няма ніякіх падставаў сьцьвярджаць, што інтэр'ер той быў дзесьці на землях сучаснае Беларусі. Аднак, за адсутнасьцю лепшых прыкладаў, зьмяшчаю яго тут на наступнай падставе: зь вялікай імавернасьцю можна дапусьціць, што, паводле задумы аўтара, менавіта гэткім мелася тады быць „тыповае“ аблічча кніжніцы ў сядзібе царкоўнага іерарха ў нашых краёх: г.зн. такая кніжніца, выгляд якой быў-бы максімальна пазнавальны для тутэйшага тагачаснага гледача, і максімальна дарэчны, ў ягоных вачох, у кантэксьце таго, што паказана на

карціне. — Акрамя таго, сам гэты партрэт быў часткаю гістарычных Радзівілаўсіх інтэр'ераў у Нясьвіжы і ёсьць часткаю тутэйшых гістарычных інтэр'ераў у кожным разе.

На карысьць думкі аб тым, што мастак сапраўды меў на ўвазе прадставіць воку тутэйшага гледача нейкую найбольш „тыповую“, пазнавальную тагачасную бібліятэчку, могуць сьведчыць наступныя акалічнасьці. Па-першае, гэткі тып бюрка, пісьмовага стала ў спалучэньні з кніжнымі паліцамі, быў сапраўды вельмі тыповым гатункам мэблі ў працоўным габінэце, напрацягу XVII ст. ды-й шмат пазьней, добра вядомы з выяваў таго пэрыяду (і з фактычна захаваных прыкладаў). Далей, на карціне бачым кнігі, пастаўленыя ў „новы“ (г.зн. тады замацаваўся адносна нядаўна) спосаб – сьпінкамі вокладак наперад. Перад тым, у сярэднявеччы, а месцамі і прынамсі да канца XVI ст. (як у бібліятэцы Эскорыал), кнігі ставілі блёкам наперад, і надпіс назвы, калі быў, мусіў зьмяшчацца непасрэдна на абрэзе папяровага ці пэргаміннага блёка. Па-трэцяе, тут бачым ужо кнігі ў найбольш тыповых, „сучасных“ і масавых, на прасторы ад Ліссабону да Смаленску, вокладках XVII ст.: з белага пэргамену, магчыма замест дошак кардон, на сьпінках пераплётаў атрамантам напісаныя імёны аўтараў і (ці) назвы. Раней, мабыць па трацыцыі з часоў рукапіснай кнігі на пэргаміне, пераплёт рабіўся найчасьцей зь цёмных гатункаў скуры на дошках (на якіх нічога разборліва не напішаш у кожным разе). Цісьненьне было яшчэ найчасьцей сьляпое; цісьненьне золатам на скуры сьпінкі пераплёту існавала, аднак было мабыць вельмі дарагім і ў кожным разе ў нашых краёх яшчэ не распаўсюджаным: тут жа нам паказваюць не вялікакняскую бібліятэку, а тагачасную „службовую“ кніжную паліцу прадстаўніка духавенства.

Нарэшце, для ўвагі гледача мастак выразна прамаляваў імёны аўтараў і (ці) назвы: так, каб гледачу яны лёгка чыталіся, бо відавочна меліся на мэце быць для яго пазнавальныя. У гэтым асаблівасьць твораў старое іканаграфіі: што часта зьмяшчала тэкт, прызначаная бо ня толькі малюнак паказваць, але й прамаўляць словамі. —

1) Першы фаліянт зьлева на паліцы — „Biblia Sac...“: гэта — „Сьвятая Біблія“ на лацінскай мове, афіцыйнай і абавязковай рэдакцыяй якой у Каталіцкім Касьцёле на стан 1680 г. была рэдакцыя, выдадзеная пры папе Клемэнце VIII, поўны тытул якой гучаў: „Biblia Sacra Vulgatæ editionis Sixti Quinti Pontificis Maximi jussu recognita atque edita“. Найбольш аўтарытэтнымі былі італьянскія выданьні 1592, 1593 і 1598 гг., і можна прыпусціць, што ў бібліятэцы мітрапаліта, які сам атрымаў багаслоўскую адукацыю ў Рыме, было адно з гэтых выданьняў.

2) Другая кніга зьлева, чытаецца як штосьці „S. Brsilij Magn...“. Гэтая назва можа падацца параўнальна складанейшай для прачытаньня, аднак перш мы бачым S., што ў гэтым кантэксьце мае азначаць „сьвяты“, затым бачым „Б“ (як далей у „Baronij“ і „Bellarmini“), бачым „silii“, ды бачым „Magn...“, што мае адразу нагадаць пра „Magnus“, „Вялікі“. Сьпіс сьвятых, да імёнаў якіх ва Ўсходняй або Заходняй цэкрвах дадавалася „Вялікі“ — досыць кароткі, у якім на „б“ пачынаецца толькі „Базыль“. Сьвяты Базылі Цэзарыйскі, або Сьв. Базыль Вялікі, жыў у 329/330 – 379 гг, адзін з Айцоў Усходняе Царквы, м.ін. адзін з аўтараў абраду

Бізантыйскае літургіі і аўтар правілаў усходне-хрысьціянскага манаства. Дык ёсьць і дадатковая акалічнасьць дзеля таго, каб на паліцы Жахоўскага быць Базылю Вялікаму: Жахоўскі быў базыліянінам: а гэта падштурхоўвае да думкі, што перад намі найбольш імаверна — „Analecta Ordinis S. Basilii Magni“, статут Базыліянскага ордэну. Фаліянт з імём Базыля Вялікага — адна з толькі дзьвюх кнігаў Айцоў Усходняе Царквы, якую бачым на паліцы ўніяцкага ўладыкі, аднак зазначым, што менавіта Статут базыльянскага ордэну, на аснове манаскіх правілаў Сьв. Базыля Вялікага, быў зацьверджаны Рымам у лацінскім перакладзе пад згаданым тытулам: у адрозьненьне ад іншых твораў гэтага аўтара (некаторыя зь якіх таксама мелі лацінскі пераклад), а таму, — з усіх іншых магчымых твораў Базыля Вялікага, — наяўнасьць менавіта базыліянскага статуту па-лаціне магла спарадзіць, прынамсі, найменш падазраньняў ва „усходняй схізме“. — Той факт, што чытаецца нібы „Brsilij“, магчыма трэба аднесьці да рэстаўрацыі 1968-1972 гг.

3) „S Io. Chrysostomi ...“: гэта другі ўсходне-хрысьціянскі аўтар на паліцы Жахоўскага — Ян Златавусны (ц.-слав. Іоаннъ Златоустъ). Нажаль, нам не паказана далейшая назва. Аднак Ян Златавусны быў ва Усходняй, у т.л. уніяцкай, царкве знакамітым найбольш з 2 прычынаў. Па-першае, як аўтар літургіі: літургія Яна Златавуснага, разам зь літургіяй згаданага вышэй Базыля Вялікага — гэта дзьве вэрсіі літургіі, што там служацца (акрамя літургіі раней асьвячаных Дароў). Па-другое, сярод усходніх хрысьціянаў меў найшырэйшае распаўсюджаньне гамілетычны зборнік ( — казаньняў), званы „Златоустъ“: які зьмяшчаў пераважна казаньні самога Яна Златавуснага.

Літургіяй Яна Златавуснага па-лаціне не карысталіся, таму сэнсоўным выглядае залічыць гэтую кнігу да аднаго з выданьняў яго гамілетычных твораў. А што тычыцца лацінскіх выданьняў, творы Яна Златавуснага друкаваліся ад канца XV да канца XVII ст. некалькі дзясяткаў разоў, прычым у пераважнай большасьці выпадкаў — у паказаным тут фармаце in-folio, таму прапанаваць больш дакладную ідэнтыфікацыю не падаецца магчымым.

4) „D. Thomae de Aquino.“: сьледам за найважнейшым гамілетам хрысьціянскага Ўсходу, на паліцы зьмешчаны найважнейшы тэоляг сярэднявечнана Захаду: Тамаш Аквінскі. Наўрацьці мы бачым тут, у адзіным фаліянце, рэалістычную выяву ягонай шматтомнай „Summae Theologicae“. За 100 гадоў, што мінулі перад 1680 г., творы Тамаша Аквінскага друкаваліся каля 30 разоў, бальшыня in-folio, таму больш дакладна вызначыць імаверны твор, якім магла быць (зыходзячы з вэрсіі рэалістычнага малюнку) тая кніга, здаецца немагчыма.

5) Наступная кніга — „Rob Bellarmini Controv...“: на паліцы Жахоўскага найноўшая каталіцкая кніжная зброя супраць „гэрэтыкаў“ ягонай эпохі. Поўная назва твору — „Disputationes de Controversiis Christianae Fidei adversus hujus temporis hereticos“, імя аўтара — Робэрто Беллярміно (Roberto Francesco Romolo Bellarmino, 1542 – 1621). Гэта быў знакаміты ў Эўропе італьянскі езуіт і найважнейшы дзеяч контррэфармацыі міжнароднага маштабу. Між інш. праславіўся тым, што старшыняваў па першай справе супраць Галілея, забараніўшы выкладаць ці абараняць тэорыю абарачэньня Зямлі вакол Сонца.

Аб важнасьці становішча Бэллярміно ў тагачасным Каталіцкім Касьцёле сьведчыць той факт, што ён быў аўтарам прадмовы ў новай (тады) афіцыйнай рымскай рэдакцыі лацінскае Бібліі — гл. пад №1 вышэй.

6) „Caes. Baronij Annali ii[?]“: таксама з арсэналу контр-рэфармацыі, твор пад назваю „Caesaris Baronii annales ecclesiastici...“ — 12-томная гісторыя царквы з рымкіх часоў, укладзеная Чэзарэ Бароніюсам (Cesare Baronio, Baronius). Гэта была найбольш падрабязная рымска-каталіцкая гісторыя хрысьціянскай царквы з выдадзеных у эпоху контр-рэфармацыі, скіраваная на абарону вяршэнства ўлады Рымскага Пасаду ў сусьветным хрысьціянстве ад крытыкі пратэстантаў (і праваслаўных, хоць іх пэўна ня мелі на мэце). Упершыню надрукавана паміж 1588 і 1607 гг. Пасьля назвы, здаецца дададзена „jj“ ці „ii“ можа азначаць „том 2“: аднак, калі так, асаблівае значэньне канкрэтна 2-га тому для асобы Жахоўскага, або ягонай пасады ўніяцкага мітрапаліта, мне невядома. (Магчыма, паказаны нумар тому, у якім распавядаецца пра разрыў паміж Рымам і Канстантынопалем ды даводзіцца рацыя Рыму).

7) Апошняя кніга — „Corpus juris canonici“, рымска-каталіцкі корпус (кодэкс) кананічнага права. Новая вэрсія кодэксу была зацьверджана папам Рыгорам XIII і выйшла ў Рыме ў 1582. Жахоўскі мог прывезьці яго непасрэдна з Рыму, а аднім зь іншых канкрэтных кандыдатаў на паліцу (зыходзячы з вэрсіі рэалістычнага малюнку) можна лічыць парыскае выданьне in-fol. 1587 г., якое, пасьля згаданага афіцыйнага рымскага, лічылася тады адным з найбольш аўтарытэтных. — Гэты фаліянт мусіў сымбалізаваць кананічную ўладу Жахоўскага, як арцыбіскупа, мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі: хоць насамрэч ён быў часткаю усходне-царкоўкай гіерархіі, а не рымска-каталіцкага епіскапату, якога той кодэкс непасрэдна датычыўся.

Яшчэ 2 меншыя кнігі ляжаць гарызантальна згары. Выглядае, што верхняя мае назву па-польску „Kazania okazyonalne“. Аляксей Хадыка ў артыкуле „Св. Язафат Кунчэвіч: складаньне культу і іканаграфіі ў Беларусі“ („Наша Вера“ № 2/2006), кажа, што маўляў, „Жахоўскі прысвяціў Кунцэвічу некалькі казанняў, рукапісную кнігу якіх пад назвай «Kazania okazjonalne» можна бачыць адлюстраванай на партрэце Жахоўскага ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі (1680)“. Нажаль, ён не падае спасылак (ні ў гэтай публікацыі, ні ў аналягічнай у „Спадчыне“) на крыніцы, а таму застаецца неяк невідавочна, адкуль-то яму сталася вядома, у гэткіх падрабязнасьцях, аб зьмесьце рукапіснай (!) кнігі на паліцы Жахоўскага на карціне ў 1680 г.. Справа з „рукапіснай“ кнігай Жахоўскага (© Аляксея Хадыкі?) выглядае досыць сумніўна: у 1680 г. творы даўно распаўсюджваліся друкам і ніхто ўжо ніякай рукапіснай кнігай шырока праславіцца ня мог: фактычна, рукапісная кніга тады ў Эўропе была ўсяго толькі неапублікаваным прыватным рукапісам, зьмяшчэньне якога, у такой якасьці, на карціне выглядае невытлумачальна (пазбаўленым сэнсу, бо ніхто з гледачоў нейкі канкрэтны неапублікаваны прыватны рукапіс пазнаць-бы ня мог). — Прагляд „Bibliografii Polskiej“ Эстрайхэра паказаў, што сапраўды, ніякай кніжкі пад такім тытулам надрукавана не было. Аднак Несецкі,

„Herbarz Polski“ (Том X), працытаваўшы тытул „Colloquium...“ (гл. ніжэй) і яшчэ іншага выданьня Жахоўстага (Gratulatio Michaeli I Regi Poloniae...“), дадае: „Są i kazania jego w druku“: што, відаць, мае азначаць, што паасобныя казаньні Жахоўскага друкаваліся шматразова пры розных аказіях. Таму падаецца больш імаверным, што тут ідзецца не аб рэальным фаліянце пад такім тытулам, а толькі аб сымбалічным: сымбалі таго факту, што Жахоўскі быў аўтарам царкоўных казаньняў з розных нагодаў — якія склалі-бы кнігу пад такім зборавым тытулам („Прынагодныя казаньні“), калі былі-бы насамрэч выдадзеныя разам. — Што тут ідзецца сапраўды аб творах самога Жахоўскага, апублікаваных ці неапублікаваных — зусім верагодна, бо „Kazania okazyonalne“ „пакладзеныя“ разам зь (ніжэй) „Colloquium Lubelskie“: поўны тытул „Colloquium lubelskie między zgodną i niezgodną bracią narodu ruskiego vigore konstytucyi warszawskiey na dzień 24 stycznia a. 1680 złożone. Leopoli: Collegium Societatis Iesu 1680“, аўтарства Жахоўскага.

Гэтак, у выяве бібліятэкі Жахоўскага назіраем спалучэньне зьместу рэальнага і сымбалічнага, у досыць тыповай для тагачаснага партрэтнага жывапісу манеры. З аднаго боку, мастак паказаў натуралістычны выгляд кніжніцы: і цалкам імаверна, што кнігі Жахоўскі меў сапраўды ў такім бюрцы-шафцы ды ў пераплётах менавіта такога выгляду, бо гэта быў агулам вельмі звычайны тагачасны гатунак мэблі і пераплётаў. Што тычыцца гэтых дэталяў, патрэт сапраўды мог малявацца ў рэальным інтэр'еры. Аднак з другога боку, карціна зусім ня мусіла дэманстраваць, што ў кніжніцы мітарапаліта было ўсяго гэтыя 9 (або, зыходзячы з габарытаў шафы, агулам каля 15) кніг. Разгляд аўтараў і (ці) назваў падводзіць да думкі, што тыя аўтары або тытулы на паліцы, старанна прапісаныя на карціне для прачытаньня гледачом, мелі на мэце сымбалізваць, — у дадатак да ўласнага аўтарства Жахоўскага згаданых вышэй твораў, — шэраг канкрэтных рэчаў: прыналежнасьць Жахоўскага да каталіцкага духавентва (№1), яго вышэйшую тэалёгічную адукацыю (№4), яго высокую духоўную пасаду (№7), прыналежнасьць да ўніяцкай царквы (№ 2 і 3), прыналежнасьць да базыльянскага ордэну (№ 3), а таксама поўную лёяльнасьць Рыму ў кантэксьце тагачаснае контр-рэфармацыйнае барацьбы ў Эўропе ды барацьбы са „схізмаю“ ў Рэчы Паспалітай (№ 5 і 6). Паказаць, што, хоць у ягонай царкве ня служыцца лацінская імша, як у рэшты каталікаў сьвету, аднак сам ён чытае выключна самыя правільныя каталіцкія кніжкі свайго часу (а калі-й грэка-бізантыйскіх аўтараў — па-лаціне), ды сам піша (і, пэўна, казаньні прамаўляе) па-польску.Але ўсе гэтыя акалічнасьці канешне не памяншаюць значнасьці таго, што на карціне бачым досыць дэталёвую выяву прыватнай або працоўнай бібліятэчкі ў 1680 г., такую, якая мелася выглядаць рэалістычнай і пазнавальнай для тагачаснага тутэйшага гледача.

**Артыкул:** *biel-interjer.livejournal.com*



20 красавіка 1923 Вацлаў Ластоўскі падаў у адстаўку з пасады прэм'ер-міністра БНР

## *455 гадоў з часу прыняцця "Уставы на валокі",*

### *аднаго з галоўных дакументаў аграрнай рэформы XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім – валочнай памеры*

«Устава на валокі» — інструкцыя распрацаваная ў 1557 г., паводле ўмоў якой праводзілася аграрная рэформа («памера валочная» або «валочная памера») і перагляд (рэвізія) пераўтварэнняў зробленых па пачатковым этапе рэформы у адпаведнасці з ранейшымі Уставамі, выдадзенымі для асобных ўладанняў.

Да сяр. 16 ст. у ВКЛ захоўваліся даўнейшыя архаічныя, традыцыйныя сістэмы сялянскага землекарыстання і абкладання сялян павіннасцямі. Старыя сістэмы не ўлічвалі усе актуальныя для 16 ст. гаспадарчыя рэсурсы і магчымасці зямельных угоддзяў, што памяншала магчымыя даходы уласнікаў гэтых угоддзяў — дзяржавы і феадалаў. Гэта абумовіла рэарганізацыю старых сістэм шляхам вымярэння зямлі на валокі (30 моргаў, або 21,36 га), вызначэння якасці глебы і ўвядзення валокі ў якасці асноўнай адзінкі абкладання ў дзяржаве.

Упершыню аграрную рэформу ў сваіх уладаннях (Давід-Гарадок, Пінск, Клецк і некаторыя інш.) у 1540 — пач. 1550-ых правяла Бона Сфорца, жонка кар. і вял.кн. Жыгімонта Старога. У кожным уладанні рэформа праводзілася на аснове спецыяльных інструкцый (Устаў). Амаль адначасова паводле асобнай Уставы пачала праводзіцца рэформа ў гаспадарскіх уладаннях яе сына Жыгімонта Аўгуста. Да 1557 рэформа была завершана ў многіх гаспадарскіх уладаннях заходняй часткі ВКЛ. Але яе прынцыпы і іх рэалізацыя былі прызнаны незадавальняючымі.

У 1557 была распрацавана новая інструкцыя — «Устава на валокі», на аснове якой пачалася суцэльная рэвізія, г. зн. перагляд папярэдняй памеры. «Устава на валокі», па сутнасці, стала новай памерай. Гэтая другая памера была скончана ў 1568 і ахапіла ўсе гаспадарскія ўладанні заходняй часткі ВКЛ.



*Жыгімонт II Аўгуст*

У 1560 г. была праведзена аграрная рэформа ў гаспадарскіх Падняпроўскіх («рускіх») валасцях. Тут яна праводзілася на аснове спецыяльнай уставы, якая ўлічвала сацыяльна-эканамічныя асаблівасці гэтага рэгіёна.

У гаспадарскіх уладаннях Падзвіння аграрная рэформа не праводзілася, таму што яна ў ходзе Лівонскай вайны

(1558—1583) стала арэнай актыуных і ваенных дзеянняў.

Валочная памера ў гаспадарскіх уладаннях Усходняй Беларусі пачалася у канцы XVI ст. У гаспадарскіх уладаннях зямля вымяралася на валокі не па 30 моргаў, а па 33 (23,5 га), а іншы раз і больш. Нягледзячы на тое, што сяляне маглі атрымаць па валоцы, яны звычайна бралі толькі па паўвалокі зямлі на гаспадарку.

Усе валокі вёскі ў залежнасці ад канкрэтных умоў па характару галоўных павіннасцей размяркоўваліся на «цяглыя», «асадныя» і «вольныя» (для сялян-слуг, якія вызваляліся ад спецыфічных павіннасцей, сялян іншых катэгорый). Мяркуючы па даных рэестраў валочнай памеры, у гаспадарскіх маёнтках пераважалі асадныя, або чыншавыя, валокі, што сведчыць аб выключна шырокім распаўсюджванні ў гэтых уладаннях грашовай рэнты.

З кожнай валокі зямлі былі ўстаноўлены дакладна вызначаныя віды і нормы павіннасцей. Віды галоўных і іншых павіннасцей залежалі ад павіннаснага характару валок, а нормы — ад якасці зямлі. Яна дыферэнцыравалася на чатыры катэгорыі: «добрая», «сярэдняя», «дрэнная» і «вельмі дрэнная».

Гэта значыць, што ўпершыню ўлічвалася розная эфектыўнасць працы на землях рознай якасці. Такім" чынам, агульны памер павіннасцей таксама ўпершыню быў абумоўлены як памерам надзелу, так і якасцю зямлі.

Галоўнай павіннасцю з асаднай валокі была «асада» — плацяжы грашамі — па 30 грошаў. Разам з галоўнай асадныя сяляне абавязаны былі выконваць і іншыя асноўныя павіннасці: плаціць па 12 грошаў за талокі і па 10 грошаў за «гвалты», г. зн. тэрміновыя работы ў надзвычайных выпадках (пажары, паводкі і да т. п.). Вартасць гэтых асноўных павіннасцей у грашовым выражэнні складае 52 грошы. Галоўнай павіннасцю з цяглай валокі была паншчына па два дні на тыдзень на працягу 49 тыдняў. Замест шасці дзён паншчыны на працягу трох тыдняў зімовых і вясновых рэлігійных святаў цяглыя сяляне абавязаны былі выконваць чатыры дні талок улетку. Значыць, яны хадзілі на працу ў фальварак 102 дні на год.

Агульная вартасць асноўных павіннасцей у грашовым выражэнні складала, напрыклад, з асаднай валокі добрай зямлі 106 грошаў, сярэдняй — 97, дрэннай — 83 і вельмі дрэннай — 66.

Апроч асноўных, сяляне аба¬вязаны былі выконваць і шэраг дадатковых павіннасцей: скошваць фальварачныя сенажаці, перавозіць грузы, будаваць, рамантаваць і вартаваць панскія, двары і г. д.

Рэарганізацыя ў 1560 г. сістэмы землекарыстання і абкладання сялянства павіннасцямі ў гаспадарскіх Падняпроўскіх валасцях заключалася ў вымярэнні ворыва на «службы» — участкі на 30 салянак (бочак) высеву зерневых, што адпавядае 30 моргам, або валоцы зямлі. Служба была уведзена замест дыма ў якасці новай адзінкі абкладання. Пры гэтым вызначалася і якасць зямлі кожнай службы: «добрая», «сярэдняя» і «дрэнная». А дну службу зямлі бралі, як правіла, дзве сялянскія гаспадаркі. Адначасова таксама высвятлялася наяўнасць сенажацяў (у вазах сена), рыбалоўных і паляўнічых угоддзяў. Удакладняліся і апісваліся знешнія межы ўсіх зямель вёсак.

За карыстанне службамі і іншымі ўгоддзямі былі ўстаноўлены да клад на вы зн а чаны я віды і нормы павіннасцей. Нормы іх былі дыферэнцыраваны ў залежнасці ад якасці зямлі, плошчы сенажацяў і наяўнасці прамысловых угоддзяў і велічыні прыбыткаў з апошніх. Нормы галоўнай павіннасці — плацяжу грашамі са службы — былі наступнымі: 60 грошаў — з добрай зямлі, 50 — з сярэдняй і 40 — з дрэннай. Іншыя асноўныя павіннасці складалі бочку збожжа і бочку аўса, 4 пенязі (0,4 гроша) за воз сена, 20 або 25 грошаў за пуд (медніцу) мёду (у залежнасці ад велічыні мясцовых мер). У якасці дадатковых сяляне выконвалі шэраг павіннасцей натурай і грашамі на карысць розных прадстаўнікоў дзяржаўнай адміністрацыі (ураднікаў). Па вышэйвыказаных прычынах, агульныя памеры плацяжоў сялян са служб у розных вёсках не былі аднолькавымі.

Такім чынам, адным з важных вынікаў аграрнай рэформы ў гаспадарскіх Падняпроўскіх валасцях было канчатковае пераўтварэнне сялян-даннікаў у сялян-чыншавікоў. Гэта таксама ўскосна сведчыць аб значнай ролі сувязей гаспадарак такіх сялян з унутраным рынкам. Істотныя змены ў сістэме землекарыстання і абкладання сялян адбыліся ў тых маёнтках свецкіх і духоўных феадалаў, у якіх была праведзена валочная памера.

Пры значным у цэлым падабенстве відаў і нормаў асноўных павіннасцей з валокі зямлі ў розных уладаннях яны ўсё ж многімі дэталямі прыкметна адрозніваліся ад адпаведных устанаўленняў Уставы на валокі 1557 г. Так, напрыклад, нормы паншчыны вызначаліся ад 2 да 5 дзён на тыдзень, чыншу — ад 20 да 50 грошаў, асады — ад 60 да 120 грошаў, талок — ад адсутнасці да 12 дзён на год.

Аграрная рэформа галоўным чынам у выніку ўвядзення больш поўнага і дакладнага ўліку і абкладання асноўных рэсурсаў сялянскай гаспадаркі прывяла да значнага павелічэння даходаў феадалаў за кошт далейшага ўзмацнення эксплуатацыі сялянства.

Асноўныя прынцыпы землекарыстання і абкладання сялянства, якія былі ўведзены аграрнай рэформай, вызначылі істотныя рысы аграрнага ладу Беларусі на працягу далейшых двухсот гадоў яго развіцця. Тым самым яна паклала пачатак новаму этапу эвалюцыі сістэмы феадальнай эксплуатацыі беларускага сялянства.

**Артыкул:** *Устава на валокі гаспадара караля яго міласьці ўва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім / пад рэд. В. Ф. Голубева // Спадчына. 1993. — № 4. — С.65-78.*



## 500 кілаграм гісторыі БНР.

Гэтыя дакументны ўвесь гэты час захоўваліcь у Цэнтральным дзяржархіве Літвы неразобраннымі. Шматлікія з іх пасля вывучэння змогуць адкрыць перш за ўсё невядомыя старонкі з нашай гісторыі.

Знойдзкныя дакументы разкрываюць падрабязнасці ўтварэння БНР, і наступныя гады яе існавання. Сярод іх цікаўныя дыпламатычныя пашпарты беларускай рэспублікі, у тым ліку асобнік прыналежны В. Ластоўскаму. Знойдзены таксама дакументы па гісторыі Беларускай рабоча-сялянскай грамады.

# *Гістарычны каляндар*

Галоўныя падзеі кракавіка

**красавік 1897**

**Нарадзіўся Юрка Лістапад**

Лістапад Юрка (Георгі) Іванаў (1897-1938), беларускі нацыянальны дзяяч.

**1 красавіка 1862 г.**

нарадзіўся Багдановіч Адам Ягоравіча (Адольф Георгіевіч) (1862 – 1940), беларускі этнограф, гісторык культуры, мемуарыст.

**2 красавіка**

нарадзіўся Бaброўскі Павел Восіпавіч (1832 – 1905), беларускі гісторык, этнограф, ваенны дзеяч.

**2 красавіка 1852 г.**

быў створаны Віленскі цэнтральны архіў старажытных актаў (створаны для збірання і зберажэння дакументаў часоў Вялікага княства Літоўскага на тэрыторыях Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Ковенскай губерняў, дзейнічаў па 1915 г.).

**4 красавіка 1896**

нарадзіўся Русак Васіль Максімаў (1896-пасьля 1946), беларускі нацыянальны дзяяч, прадпрымальнік, ураджэнец в.Ячава Слуцкае воласьці. Удзельнік Першае сусьветнае вайны з жніўня 1915 г., ваяваў на Паўночным фронце.

**4 красавіка 1972 г.**

заснаваны Купалаўскі мемарыяльны запаведнік “ВЯЗЫНКА” (Маладзечанскі р-н.).

**11 красавіка**

прынята VIII Усебеларускім з’ездам Саветаў другая Канстытуцыя БССР.

**13 красавіка 1940 г.**

пачаўся другі этап дэпартацыі з Заходняй Беларусі асобаў, абвінавачваных у адданасці польскаму ўраду і падрыхтоўцы ваенных дзеянняў супраць СССР; 24 тысячы чалавек выпраўлена ў Сібір і Казахстан.

**14 красавіка 1885 г.**

нарадзіўся С. Рак-Міхайлоўскі (1885-1937), беларускі палітычны і грамадзкі дзяяч, пэдагог.

**16 красавіка 1832 г.**

нарадзіўся Альфрэд Ромэр (1832, Вільня – 1897), жывапісец, графік, медальер, мастацтвазнаўца, этнограф.

**19 красавіка 1912 г.**

нарадзіўся Прокшын Леанід Януаравіч (1912 – 1994), беларускі пісьменнік.

**22-24 красавіка 1937 г.**

у Мінску адбылаcяся Усебеларуская нарада архіўных работнікаў.

**23 красавіка 1932 г.**

быў створаны Саюз кампазітараў Беларусі (створаны як аўтаномная секцыя пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі, з 1938 г. самастойная арганізацыя).

**24 красавіка 1892 г.**

нарадзіўся Сіманоўскі Іосіф Бенцыянавіч (1892 – 1967), беларускі бібліятэказнаўца, бібліёграф, перакладчык, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.

**25 красавіка 1868 г.**

нарадзіўся Раман Скірмут - беларускі і польскі грамадзка - палітычны дзяяч, буйны землеўладальнік.

**26 красавіка 1986**

**Аварыя на Чарнобыльскай АЭС**

Пыкладна ў 1:23:50 26 красавіка 1986 году на 4-м энэргаблёку Чарнобыльскай АЭС адбыўся выбух, які поўнасцю зруўнаваў рэактар. Спыніць актыўны выкід радыяактыўных рэчаў з разбуранага рэактару атрымалася толькі ў канцы траўня 1986 г.

**26 красавіка 1842 г.**

скончылася будаўніцтва Брэсцкай крэпасці.

**28 красавіка**

**Дзень памяці Кірылы Тураўскага**

жыццёвы шлях Кірылы Тураўскага, гэтага выдатнага сына нашай зямлі пачаўся ў старажытным Тураве. Родны горад Кірылы быў сталіцай моцнага княства і адным з галоўных агменяў усходне-славянскай асветы.

**28 красавіка 1859**

нарадзіўся Кіпрыян Кандратовіч - расейскі і беларускі вайсковы дзяяч, сябра Народнага Сакратарыяту БНР.

**28 красавіка 1918 г.**

дзяржаўнай і абавязковай мовай БНР абвешчана беларуская.

**28 красавіка 1919 г.**

у Вільні выйшаў 1-ы нумар газеты «Беларуская думка».

**Заснавальнік:** Студэнцкая гістарычная суполка “Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага”
**Галоўны рэдактар:** Дамарад В. А.
**Кантактныя тэлефоны:** (029) 732-75-93
**E-mail:** Recoba20.bel@mail.ru . **Інтэрнэт:** www.amataribelhist.gumshpora.ru
**Наклад:** 50 асобнікаў

## **455** гадоў з дня нараджэння Сапегі Льва (1557 – 1633), палітычнага, грамадскага і ваеннага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, дыпламата і мысліцеля

